**Збожжо** з эканоміі округа мае быць перавезено у Менск асобымі маршрутнымі цягнікамі, на аснове контынгэнцкай сыстэмы з 15-га лістапада.

**Вагоны для апалу.** Ад 8 га лістапада зьвяты адмяжованнасьці з перавозкі апалу для патрэб ваенных чыгунак.

**У бюро коопэратывау** у краме ботау (Рог вул. Тадэуша Рэйтана-Юраускай і Домінiканскай—Петрапаулаускай) прадаецца цяпер вядорага вялікая партыя мужчынскіх і дзіцячых ботау.

**Аддзел пропускау** пры акружным упрауленьні ад 20-га лістапада мае быць перададзены пад кірауніцтво павятовага старасты (гмах акружнага суда, увойсьце з пляцу).

**Аптэкі на акраінах горада**, мае быць 4. Так сама будзе праведзена у жыцьце новая (часовая) такса на лекарствы.

**У Менскай павятовай па ваенным стратам камісыі** (Акружны суд пакой № 17) прыкмечаецца вялікі наплыу просьбау аб выплаце страт ад вайны і бальшавізму.

**Ад голаду павесілася** настауніца 7 й пачатковай вышэйшай школы (ул. А. Міцкевіча, 132) Зося Жыжнеуская у сваім памяшканьні, пры школе.

Настауніцы было 35 год. Ад 1-га жніуня не адтрымлівала пэнсыі, распрадала усе сваe рэчы на хлеб, пакуль дайшла да самагубства.

---

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



### АБВЯШЧЭНЬНЕ № 71.

Падаецца да агульнага ведама аб установе абавязковага курсу на грошы. ПОЛЬСКАЯ МАРКА РОУНА ЦАРСКАМУ РУБ.

Пры усялякіх падрахунках вышэй азначаны курс павінен быць строга утрыманы, т. е. не дапускаецца зьменьшэньне курсу.

За усякую правіннасьць procі гэтага распараджэньня вінаватые будуць карацца адміністрацыйным парадкам грашыма да 30.000 марак ці вастрогам да 6 месяцау.

**Ул. Рачкевіч** Начальнік Менскага Округу.
**І. Петрашэускі** Дырэктар Скарбовай Палаты.
**Р. Турчыньскі** Кіраунічы Адміністрацыйнымі Справамі.

Менск, 8 лістапада 1919 г.



Друкарня Інвалідаў, Менск.